

**Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны**

№4 (красавік), 2015

# Мяжа




**Тыдзень прававых ведаў для дзяцей**

(старонка 12)

## ЗЬМЕСТ

## Варта дапытаць сведкаў




25 сакавіка ў горадзе Менску адбыўся мітынг прысвечаны Дню Волі. Галоўнай падзеяй гэтага свята было шэсце. На яго прыйшло амаль 2000 чалавек, сярод якіх вялікая колькасць моладзі. Ужо пасля мітынгу найбольш актыўным і вядомым удзельнікам мерапрыемства прыслалі пратаколы аб адміністратыўнымі парушэнні.

Распавядае Аляксандар Мех, які браў удзел у мітынгу: “Такія пратаколы прыйшлі Статкевічу, Севярынцу і ншым ўдзельнікам мітынгу. Я таксама артымаў пратакол. Ён складзены завочна. У пратаколе неразборліва напісана: По адресу г.Минск, ул. Янки Купалы, 9 принял активное участие в несанкционированном пикете без разрешения Мингорисполкома, что выразилось в массовом присутствии граждан по указанному адресу…, чем нарушил установленный порядок проведения пикетирования, установленный статьей 10 Закона РБ «Об массовых мероприятиях».

Крыху ніжэй напісана самае цікавае: Лицо, в отношении которого ведется административный процесс, Мех Александр Васильевич, отказался подписывать протокол об административном правонарушении».

Аляксандар сцьвярджае, што ніякага пратакола нават у вочы не бачыў. Ён лічыць, што такім чынам парушаны артыкул 193 «Крымінальна-працэсуальнага кодэкса РБ», які вызначае, што “протокол предъявляется для ознакомления всем лицам, участвовавшим в производстве следственного действия. Они имеют право делать замечания, подлежащие внесению в протокол. Все внесенные в протокол замечания, исправления и дополнения должны

быть оговорены и удостоверены подписями этих лиц".

Днямі Аляксандар атрымаў СМСку, што 7 красавіка а 12 гадзіне павінен ставіцца ў судзе ў Менску.

Цяжка каментаваць абсурд, - кажа ўдзельнік, - Я прайшоў ужо шмат такіх судоў. Амаль два дзясятка. Кожны раз плачу вялізарныя сумы. Апошні раз я заплаціў 7 200 000 беларускіх рублёў за тое, што ўшанаваў памяць Кастуся Каліноўскага.

Аляксандр збіраецца ў судзе высвятліць тыя пытанні, якія цікавяць менавіта яго.У пратаколе есць сведкі аб нейкім пацярпеўшым, таму, безумоўна, яму цікава дапытаць гэтых сведкаў і даведацца, што ён парушыў. У судзе такая магчымасць есць.

Ня гледзячы на вялікую колькасць судовых пакаранняў, Аляксадар Васільявіч не мае намеру кідаць грамадскую справу, бо, як кажа сам актывіст, гэта наша краіна і трэба яе бараніць.

## Аўтапрабег да Дня перамогі блакавалі каля Брэсцкай крэпасці за неаплату BelToll

Каля Брэсцкай крэпасці транспартная інспекцыя блакавала бусік міжнароднага аўтапрабегу да Дня Перамогі. Удзельнікам аўтапрабегу паведамілі, што яны не аплацілі праезд па платнай дарозе. За гэта з іх запатрабавалі 1040 еўра, піша "Брестская газета".

Міжнародны аўтапрабег "Эстафета памяці" стартаваў 5 красавіка. Яго ўдзельнікі выехалі з Брэста, Архангельска, Севастопаля, Дэрбента і з вострава Рускі ў Прыморскім краі. У Беларусі старт эстафеце быў дадзены на плошчы Цырыманіялаў у Брэсцкай крэпасці.

Пасля завяршэння афіцыйнай часткі ўдзельнікі прабегу вярнуліся на паркоўку каля мемарыяльнага комплексу, дзе стаялі іх аўтамабілі. У гэты момант іх і спыніла транспартная інспекцыя. Яе супрацоўнікі патлумачылі, што расіяне мусілі пры ўездзе ў Беларусь атрымаць і ўсталяваць бартавую прыладу BelToll, бо агульная маса мікрааўтобуса перавышала 3,5 т. Самі ўдзельнікі аўтапрабегу кажуць, што на ўездзе ў Беларусь ім пра гэта ніхто не паведаміў, хаця акцыя была ўзгодненая з уладамі.

Намеснік начальніка філіяла Транспартнай інспекцыі па Брэсцкай

вобласці Віктар Алейнік паведаміў журналістам, што мікрааўтобус "наездзіў" чатыры парушэнні. Для аўтамабіляў з дапушчальнай агульнай масай звыш 3,5 т памер платы ў павялічаным памеры складае 260 еўра за адно парушэнне.

Сведка распавёў, што супрацоўнікі транспартнай інспецыі затрымалі бусік прыкладна на тры гадзіны. Супрацоўнікі расійскага консульства, якія былі ў аўтамабілі, паабяцалі выказаць беларускаму боку ноту пратэсту з гэтай нагоды.

http://euroradio.fm/autaprabeg-da-dnya-peramogi-blakavali-kalya-bresckay-krepasci-za-neaplatu-beltoll

## Заробкі берасцейцаў імкліва падаюць

Пра гэта сведчаць лічбы прадастаўленыя Галоўным статыстычным упраўленнем Берасцейскай вобласці.

Сярэдні заробак працаўнікоў сёлета ў лютым склаў усяго крыху больш за 5 мільёнаў 600 тысяч беларускіх рублёў або 280 даляраў.

Старшыня Берасцейскай абласной арганізацыі Незалежных прафсаюзаў Валянцін Лазарэнкаў адзначае, што такая сітуацыя была прадказальнай:

– Частка грошай ішла за кошт высокай цаны на нафту, 7% некалі датацыя была, крэдыты ці іншым чынам. Сёння паўстала пытанне, што мы павінны зарабіць столькі, колькі мы можам зарабіць, але ўжо няма на чым зарабляць.

Як падкрэслівае Валянцін Лазарэнкаў, значная частка прадпрыемстваў Берасцейскай вобласці жыла за крэдыты, з якіх і ішла асноўная выплата заробкаў.

http://www.racyja.com/ekanomika/zarobki-berastsejtsau-imkliva-padayuts/

## Ніякога судовага працэса не было

7 красавіка адбыўся суд над грамадскім актывістам з Кобрына Аляксандрам Васілевічам Мехам за тое, што ён ўдзельнічаў у мітынгу, прысвечанаму Дню Волі 25 сакавіка. Разам з Алесям судзілі яшчэ 5 чалавек, але ён быў адзіным з рэгіёна – астатнія былі мінскія.

25 сакавіка - здымак з матэрыялаў адміністратыўнай справы




У якасці сведкі выклікалі камандзіра АМАПа, Барыса Генадзевіча Быка, які “дапамог” Аляксандру зразумець, за што яго судзяць. Амапавец патлумачыў у судзе, што Аляксандр Васілевіч быццам трымаў сцяг, плакаты. Калі прыцягваемы да адказнасці Аляксандр Мех спытаў Барыса Генадзевіча, што была на плакатах, той сказаў, што не памятае. Мех кажа:” Сведак сцьвярджае, што да мяне падходзілі нейкія супрацоўнікі міліцыі, каб папярэдзіць мяне, што гэты мітынг несанкцыянаваны, але ж тут жа кажа, што не бачыў, хто гэта быў. Канечне, на самой справе ніхто мяне не папярэджваў”.

У выніку суд прыняў рашэнне, пакараць Аляксандра Васілевіча штафам ў памеры 50 базавых велічын. На сенняшні дзень гэта амаль 10,500,000 беларускіх рублеў.

Прыцягваемы да адказнасці распавядае:” Ніякія мае довады не далі ніякага выніка. Я прасіў выклікаць другога міліцыянта, але маё хадайніцтва суд праігнараваў. Тады я прасіў, каб суддзя ўважліва праглядзела аператыўныя здымкі, відэаматэрыялы, перачытала пратакол, але суддзя не адрэагавала. Ніякага судовага працэса не было. Няма суда”.

Аляксандар амер аспрэчваць рашэнне гэтага суда. Ён сумняецца, што гэта дасць нейкі вынік на яго карысць, але збіраецца да канца адстойваць свае правы.

## Бярозаўскія актывісты прапанавалі ідэолагам правесці сумесную акцыю

Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты прапанавалі ў пісьмовай форме ідэалагічнаму аддзелу Бярозаўскага выканаўчага камітэта правесці 26 красавіка сумесную акцыю «Свечку памяці» на галоўнай плошчы горада. Акцыя прымеркавана да 30 гадавіны Чарнобыльскай трагедыі, кажа адзін з заяўнікаў праваабаронца Сяржук Русецкі:

— Некалі нас прыцягвалі да адміністрацыйных адказнасці, а ўжо пасля нашых пакаранняў БРСМ-аўцы на той жа плошчы спакойна праводзілі розныя акцыі. Таму мы звярнуліся да ідэалагічнага аддзелу, у тым сэнсе, што Чарнобыль не раздзяляў людзей па палітычных поглядах, таму мы прапаноўваем разам адзначыць гэтую сумную гадавіну.

Праваабаронцы таксама звярнуліся па дазвол на правядзенне «Свечкі памяці» 26 красавіка ў Бярозаўскі раённы выканаўчы камітэт. Яны вырашылі ўзнавіць традыцыю ўспаміну гэтай трагедыі. Некалькі гадоў таму «Свечка памяці» была спынена адміністрацыйнымі пакараннямі праз суд.

http://www.racyja.com/hramadstva/byarozauskiya-aktyvisty-prapanavali-i/

## Сустрэча з нашчадкам вялікіх пісменнікаў

11 красавіка берасцейцы змаглі пазнаёміца з Марыяй Міцкевіч, унучкай двух вядомых класікаў беларусскай літаратуры Якуба Коласа і Янкі Маўра.

Марыя Міцкевіч распавяла пра вядомыя і мала вядомыя факты жыцця сваіх знакамітых продкаў. Дачка Янкі Маўра, Наталля, выйшла замуж за сына Якуба Коласа - Міхася.

Нагадаем, што сапраўдная прозвішча Якуба Коласа - Канстанцін Міцкевіч. Яго нашчадкі па жаночай лініі не мяняюць прозвішча, выходзячы замуж. На сустрэчы Марыя Міцкевіч прэзентавала вынікі сваіх даследванняў невядомых старонак жыцця і творчасці сваіх дзядоў.

Якуб Колас і Янка Маўр, якога сапраўднае прозвішча Іван Фёдараў, пазнаёміліся і пачалі сябраваць з нелегальнага з’езду




настаўнікаў, які адбыўся ў 1906 годзе ў Мікалаеўшчыне. Паліцыя разагнала нелегальны з'езд, а судовае разбіральніцтва доўжылася амаль два гады. Янку Маўру забаранілі настаўнічаць і ўзялі пад нагляд паліцыі. Я.Колас быў арыштаваны і асуджаны на 3 гады турэмнага зняволення, увесь тэрмін адбываў у Мінскім астрогу.

Янка Маўр захапляўся эсперанта, вёў перадачу для эсперантыстаў на беларускім радыё. Шмат ліставаўся з эсперантыстамі свету, атрыманую інфармацыю выкарыстоўваў у сваіх кнігах.

Але ў 30-е гады эсперантыстаў абвінавацілі ў тым, што яны з'яўляюцца членамі міжнароднай шпіёнскай арганізацыі. Янка Маўр быў арыштаваны, калі следчы даведаўся, что арыштаваны Іван Федараў – гэта Янка Маўр, дык адпусціў пісменніка, бо быў у захапленні ад ягоных твораў.

Дарэчы, свайму зяцю Міхасю Міцкевічу, бацку Марыі Міцкевіч, Янка Маўр чытаў “Яўгена Анегіна” на эксперанта, а Якуб Колас прысвяціў Міхасю кнігу «Міхасёвы прыгоды».

Унучка вядомых пісьменнікаў распавяла, што Колас перапісваўся

з Берасцейскім дзіцячым домам. Дзеці атрымлівалі яго пісьмы, ёсць і пісьмы выхаванцаў дзіцячага дома да Коласа.

А Янка Маўра запрасілі да сябе памежнікі. Ён наведаў Берасцейскую крэпасць, шмат з кім размаўляў. Пасля таго напісаў апавяданне «На заходніх рубяжах». У архіве захаваліся фотаздымкі з памежнікамі Берасця.

Сама Марыя Міцкевіч да выхада на пенсію выкладала вышэйшаю матэматыку ў Мінскам інстытуты кіравання, з’яўляецца старшынёй дзіцячага дабрачыннага фонду «Сакавік», намеснік старшыні таварыства «Беларусь-Ірландыя», шмат часу аддае даследыванню жыццю і творчасці сваіх знакамітых дзядуль. Напрыклад, ў Рызе, у Латвіі спадарыня Марыя знайшла невядомы дарчы надпіс Якуба Коласа. У бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане, атрымала шмат матэрыялаў, прысвечаных Якубу Коласу, якія друкаваліся па-за межамі Беларусі, у тым ліку і мюнхенскія выданні «Сымона Музыкі», «Новай зямлі», бесцэнзурныя выданні. Выдала кнігу мамы Наталлі Іванаўны - дачкі пісьменніка Янкі Маўра, мемуары пра свайго бацьку.

Вельмі душэўныя сустрэча атрымаліся са спадарыняй Марыяй Міцкевіч. Напамяць кожны жадаючы атрымаў паштоўку з цытатамі тэкстаў Якуба Коласа і Янкі Маўра і з аўтографам унучкі.

## Тутэйшы без грамадзянства

Вырашэнне спраў грамадзянства ў цяперашні час застаецца адной з надзённых праблем у нашай краіне. Тысячы людзей кожны дзень звяртаюцца ў адпаведныя органы з гэтым пытаннем. Трэба заўважыць, што такая справа патрабуе немалых сродкаў, сіл і, не мала важна, яшчэ і часу для яе рашэння. Добра, калі яна паспяхова вырашаецца і чалавек атрымоўвае грамадзянства, а калі не… Разгледзім канкрэтны прыклад.

Мужчына, які нарадзіўся і вырас тут, у Беларусі, не можа атрымаць гэтага грамадзянства. Чаму? Разбярэмся, як усё было, па парадку.

Вараксін Уладзіслаў Рыгоравіч нарадзіўся ў Брэсце, закончыў школу і тут жа працягнуў навучанне. Беларусь – гэта яго Радзіма.

Пасля дасягнення шаснаццігоддзя АУС Маскоўскага района г. Брэста выдаў яму пашпарт грамадзяніна СССР, пасля заканчэння сярэдняй школы мужчына прыехаў да свайго бацькі ва Украінскай ССР, дзе часова прапісаўся і праз некалькі месяцаў быў прызваны на ваенную службу ў шэрагі Савецкай Арміі.

У 1990-ым годзе, падчас службы ў войску, быў асуджаны да 2 гадоў 6 месяцам пазбаўлення волі. Пачаў адбываць пакаранне ва Украінскай ССР, а пасьля распаду СССР у 1991 годзе быў этапаваны ў Беларусь у Мінск дзеля далейшага адбыцця пакарання. Пасля адбыцця пакарання вярнуўся ў Брэст. Тут у 1992 годзе здейсніў чарговае злачынства і быў асуджаны судом Ленінскага района г. Брэста.

Пасля адбыцця другога пакарання на нейкі час выяжджаў на тэрыторыю Украіны, у сувязі са смерцю бацькі. Але ў перыяд пражывання там, мужчына не прыймаў грамадзянства Украіны.

Неўзабаве, у 1997 годзе, ён ажаніўся, а праз год у шлюбе нарадзіўся сын. У 2000 годзе шлюб быў расторгнуты.

Трэба заўважыць, што ўвесь гэты час дакументам, які пацвярджае асобу, з’яўляўся паспарт грамадяніна СССР.

У 1999 годзе Вараксін У. Р. звярнуўся ва АУС Брэсцкага райвыканкама з заявай аб набыцці грамадзянства РБ у парадку рэгістрацыі, але яму выдалі толькі від на жыхарства.

У 2004 годзе мужчына каторы раз здзейсніў злачынства, з прычыны якога ён быў асуджаны судом Маларыцкага района ўжо да 10 гадоў пазбаўлення волі. У 2013 г. быў вызвалены і вярнуўся жыць у адну з вёсак Брэсцкага района, дзе ўлаштаваўся на працу трактарыстам. У гэтым жа годзе ім была атрымана даведка, якая сведчыла, што ён “асоба без грамадзянства”. З гэтага часу што 3 месяца ён мусеў рэгістравацца па месцы жыхарства.

Яшчэ праз год мужчына другі раз заключыў шлюб і выхоўвае двух непаўналетніх дзяцей. Але сродкаў для іх утрымання ён не мае.

У кастрычніку 2015 года Уладзіслаў звярнуўся ва АУС Брэсцкага райвыканкама з заявай аб прадастаўленні грамадзянства, але яму было адмоўлена на падставе арт. 16 Закона “Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь”.

Не зважаючы на асобу, варта згадаць, што чалавек які мае статус “асобы без грамадзянства” пазбаўляецца адпаведных грамадзянскіх і палітычных правоў! У нашым выпадку ён яшчэ мусіць забяспечваць сям’ю, дзяцей...

У 1992 годзе мужчына меў магчымасць атрымаць грамадзянства ў парадку рэгістрацыі на падставе дзеючага на той момант Закона “Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь”, як народжаны ў 1970-ым годзе ў БССР і дзе стала пражываў да 1987 года. Верагодна, што і ў перыяд з 1996г. да 2003 меў падставы для атрымання грамадзянства ў парадку рэгістрацыі.

У адпаведнасці з арт.8 Закона “Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь” грамадзянства набываецца:

а) па нараджэнні,

б) у парадку рэгістрацыі ( менавіта наш выпадак),

в) у выніку прыёма ў грамадзянства РБ,

г) па другім прычынам, прадугледжаным Заканам і міжнароднымі дагаворамі РБ.

«На падставе арт. 15 Закона РБ «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь» са зменамі ад 01. 08. 2002 за № 136-З прадугледжаны спрошчаны парадак атрымання грамадзянства асобамі, якія мелі “грамадзянства колішняга СССР, пры ўмове, што яны нарадзілісь ці стала пражывалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь да 12 лістапада 1991 года”».

Вараксіну У. Р. выдалі дазвол на пастаяннае пражыванне ў нашай краіне з наступным дакументаваннем даведкі замест віда на жыхарства і рэгістрацыяй ў вёсцы, дзе ён пражывае.

У 2015 годзе была праведзена праверка прыналежнасці да грамадзянства РБ, у выніку якой мужчына не прызнаны маючым грамадзянства, што не дзіўна, бо грамадзянства ён не атрымліваў.

Такім чынам маем, што чалавек, які нарадзіўся і вырас ў Беларусі, не можа атрымаць у ёй грамадзянства. Ён пазбаўлены магчымасці працаўладкавацца, зарабляць на жыццё. Ён мае сям’ю, жонку і дзьвух дзяцей, і яшчэ адно непаўнагадовае дзіцё ад першага шлюбу, на ўтрыманне якога трэба выплачваць аліменты. Працаўладкавацца ён не можа не па сваёй віне, чалавек трапляе ў

тунеядцы і хранічнічныя правапарушальнікі.

Стала вядома, што 11 красавіка Вараксін У. Р. быў затрыманы праваахоўчымі органамі і дастаўлены ў ізалятар часовага ўтрымання (ІЧУ). Яму пагражаюць дэпартацыяй, але зноў жа паўстае пытанне: куды дэпартаваць з Радзімы чалавека, калі ён не мае ніякога грамадзянства, у якую краіну?

Перад намі гісторыя чалавека, які жыве на Радзіме, мае пашпарт грамадзяніна СССР і не можа атрымаць грамадзянства сваёй роднай краіны. Сітуацыя выклікае пытанні.

## Тыдзень прававых ведаў для дзяцей

8 красавіка ў СШ №29 у рамках агульнашкольнага мерапрыемства “Тыдня прававых ведаў” у 5 “Г” беларускім класе гаварылі аб правах дзяцей.

Калі бацькі вучняў даведаліся ад класнага кіраўніка Ніны Мікалаеўны Паляковай, што ў школе плануецца правядзенне класнай гадзіны па тэме “Правы Дзіцяці”, яны вырашылі навязаць супрацоўніцтва з Брэсцкім Дзяржаўным Універсітэтам і звярнуліся з адмысловай прапановай да кіраўніцтва згаданых навучальных установ.

Адміністрацыя школы ў асобе яе дырэктара Сяргея Уладзіміравіча Саўчука адгукнулася на пажаданне бацькоў і звярнулася ў БрДУ каб класная гадзіна аб правах дзіцяці прайшла з удзелам юрыдычнага факультэта.

Класны час па тэме “Правы Дзіцяці” правялі студэнты 3-га курса юрыдычнага факультэта Аляксандар Мацюшка і Дзмітры Лазарэвіч.

“Прапанова правесці заняткі ў беларускім класе нам спадабалася – гэта для нас знакава”, - сказалі яны на пачатку заняткаў: “А таму мы пачнем з удасканальвання вашага слоўнікавага запаса. Адна каманда атрымлівае ключавыя словы “ЗАКАНАДАЎСТВА”, а другая “КАНСТЫТУЦЫЯ”. Хто напрацягу 3-х хвілін складзе больш словаў з літар гэтых ключавых словаў – той перамог!” Дзеці назбіралі аднолькавую колькасць балаў...




Потым была кампутарная прэзентацыя аб правах дзіцяці. Па выніках прэзэттацыі на замацаванне атрыманых ведаў было праведзена некалькі конкурсаў. Дзецям было цікава, а бацькам прышпільна. Варта згадаць некалькі прыкладаў.

- Які артыкул парушыў воўк з’еўшы Чырвоную Шапачку? - пытае дзяцей студэнт Аляксандр.

- Права не жыццё, - адказвае вучань Алесь...

- Якія правы парушылі бацькі Спячай Прыгажуні, калі не сказалі аб накладзеным на яе праклёне?

- Права на інфармацыю, - выказвае здагадку Міколка.

- Які артыкул парушыла Далорэс Амбрыдж, калі забараніла збірацца Гары Потэру і ягонаму “Атраду Дамблдора”?

- Права на мірны сход! – цягне руку Францішак.

- Які артыкул парушылі жыхары, якія забараналі дзецям гуляць з Асоль?

- Кожнае дзіцё мае права гуляць! – упэўнена сказаў Янка.

Пэўную дыскусію выклікала пытанне “Які артыкул парушылі сваякі Джульеты, калі забаранілі ёй сустракацца з Рамэа?”

Супольнымі намаганнямі з дапамогай студэнтаў прыйшлі да высновы, што “права на асабістае жыццё”...

А потым быў СУД!

Адна каманда павінна была апраўдаць ваўка, якога абвінавацілі ў разбоі і знішчэнні майна трох парсючкоў, а другая каманда, мусела апраўдаць мядзведзя, які гвалтам утрымліваў непаўнагадовую Машу і сведама не аддаваў яе бацькам...

Дзецям “класная гадзіна” спадабалася, студэнты паабяцалі прыходзіць і надалей: “У нас ва універсітэце ёсць “прававая клініка”, якая аказвае бясплатную дапамогу маламаёмасным, звяртайцеся”.

Вучні 5 “Г” беларускага класа спадзяюцца на працяг супрацы школы і ўніверсітэта і ў будучыні разлічваюць пабачыць у сваім класе студэнтаў-практыкантаў, якія забяспечаць іхняе канстытуцыйнае права на атрыманне адукацыі на беларускай мове.

## Установы пазбаўлення волі не мусяць ператварацца ў месцы для катаванняў

8 красавіка Аляксандр Лукашэнка на нарадзе, прысвечанай супрацьдзеянню незаконнаму абароту наркотыкаў, запатрабаваў зрабіць больш жорсткімі ўмовы ўтрымання для асуджаных за спажыванне і распаўсюджванне наркотыкаў.

“Для іх трэба стварыць невыносныя ўмовы ў месцах адбыцця гэтых тэрмінаў… Установім ім такі рэжым, каб яны, седзячы ў гэтай калоніі, прама скажу, смерці прасілі. Тое ж самае і для распаўсюджвальнікаў», - цытавала Лукашэнку агенцтва «Інтэрфакс».

Праваабаронцы асцерагаюцца заяў такога кшталту, бо такі падыход можа прывесці да стварэння канцэнтрацыйных лагераў для асобных катэгорый асуджаных. Пры чым не трэба забывацца, што тэрміны па арт. 328 і так драконаўскія, часам яны сягаюць да 20 гадоў пазбаўлення волі.

Складваецца такое ўражанне, што беларускія чыноўнікі, як і прадстаўнікі праваахоўных органаў, да канца не разумеюць навошта існуюць месцы пазбаўлення волі, што іх функцыя не катаванне вязняў, а іх ізаляцыя ад грамадства, бо яны прадстаўляюць пагрозу

да грамадзян.

Больш за тое, не раз вядомы выпадкі, калі асуджаныя за спажыванне і распаўсюджванне наркотыкаў становяцца ахвярамі “разводу” аператыўна-эксперыментальных мерапрыемстваў. Не так даўна Брэсцкі абласны суд разглядаў справу 20-ці гадовага маладзёна, якога асудзілі на 10 гадоў пазбаўлення волі за распаўсюджванне псіхатропа. Берасцеец, які захапляецца батанікай, набыў насенні акацыі праз інтэрнэт-краму ў раздзеле “Сад і агарод”. Пра тое, што насенні ўтрымліваюць псіхатроп нават не ведаў. Пачак з насеннямі расліны, які канфіскавалі падчасператрусу, нават не быў распакаваны. А ўсе аператыўна-вышуковыя працы праводзіліся на падставе сведчанняў яго сябра, які пазней прызнаўся ў судзе, што агаварыў пад ціскам следства.

Таму ўзнікае пытанне: ці вялікія тэрміны і добрая статыстыка раскрытых спраў паводле арт. 328 не з’яўляюцца прама прапарцыянальнымі высокім заробкам і прэміяльным?

## Праваабарончы цэнтар «Вясна» адзначае 20-годзьдзе

26 красавіка 1996 года, падчас акцыі “Чарнобыльскі шлях”, прысьвечанага 10-годзьдзю аварыі на ЧАЭС, міліцыя затрымала некалькі сотняў грамадзян. 27 красавіка было арыштавана амаль усё кіраўніцтва БНФ. Ініцыатыўная группа на чале з Алесем Беляцкім ўзялася дапамагчы ахвярам жорсткага разгону Чарнобыльскага шляху. Пачалі збіраць інфармацыю пра затрыманых, дапамагаць сем’ям. Ініцыятыва дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў ператварылася ў праваабарончую місію.

15 чэрвеня 1999 года арганізацыя была зарэгістраваная як Грамадскае аб’яднанне «Праваабарончы цэнтр «Вясна», з центрам у Менску і рэгіянальнымі філіямі ва многіх гарадах Беларусі. Але 28 кастрычніка 2003 года за ўдзел у назіранні падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 года праваабарончы цэнтр «Вясна» быў пазбаўлены дзяржаўнай рэгістрацыі. У офісах праваабарончых цэнтраў шмат разоў адбываліся ператрусы, канфіскоўвалі аргтэхніку, арыштоўвалі




актывістаў.

На сёньняшні дзень «Вясна», фактычна працуе ў падпольлі, але надалей бароніць правы чалавека, аказывае юрыдычную дапамогу грамадзянам, вядзе прававую адукацыю і асьвету, складае агляды-хронікі парушэньняў правоў чалавека, назірае за выбарамі, займаецца праблемамі ўтрыманьня зьняволеных у турмах, праводзіць кампанію па адмене сьмяротнага пакараньня.

Грамадскае аб'яднанне "Вясна" шчыльна супрацоўнічае з міжнароднымі праваабаронцамі, уваходзіць у Міжнародную Фэдэрацыю па Правах Чалавека – FIDH, Эўрапейскі Нерат Арганізацый па Маніторынгу Выбараў – ENEMO, Усходнеэўрапейскага Рэгіянальнага Нерату Глабальнага Партнэрства па Папярэджаньні Канфліктаў – GPPAC.

Сябры арганізацыі перакананыя, што Беларусь павінна трымацца ў эўрапейскім кантэксьце разуменьня правоў чалавека, што "Вясна" – гэта ня проста няўрадавая арганізацыя, гэта частка найноўшай гісторыі Беларусі, і вельмі важна, што арганізацыя надалей дзейнічае, што надалей працягваецца гісторыя Беларусі.

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»